# ЗЬМЕСТ.


| | | |
|---|---|---|
| 1 | з Янкі Купалы | |
| 2 | Пара і нам . . . . . . . . . . | Чмурыла. |
| 3 | Выбары . . . . . . . . . . . . | А. Сваяк. |
| 4 | Мы і Яны . . . . . . . . . . | Вучань-Беларус |
| 5 | Гісторыя і заданьні скаўцтва . . . | У.Ш. |
| 6 | Ад рэдакцыі | |
| 7 | * * * верш . . . . . . | Іг. Дварчанін |
| 8 | Мае думкі | |
| 9 | Пагляд на творчасьці Марцінкевіча . | М. І. |
| 10 | „Хто гэта“? . . . . . . . . . . | Язэп Р. |
| 11 | „Дуб“ верш . . . . . . . . . | Ю. Сяргіевіч |
| 12 | „Пацалунак“ з Тургенева . . . | пер. М. І. |
| 13 | * * * верш. | Н. А. |
| 14 | Хроніка. | |
| 15 | Мешаніна. | |



*За праўду, за шчасьце, за лепшую долю*
*Вазьміся, мой дружэ, пастой,*
*У крыўду ня дайся, свайго дабівайся,*
*Адвага хай будзе з табой!*

*Янка Купала*

# Пара і нам.

Прыглядаючыся да жыцьця моладзі ў рожных гаспадарствах, асабліва новапаўстаўшых нап: Чэхія, Польшча, Латвія, Фінляндыя і інш., мы заўважваем, як здабыла гэтая моладзь пачэснае мейсца ў вачох старэйшага грамадзянства.

Патрэба мець грамадзян здольных да жыцьця і кіраваньня краем, прымушае ўладу дапамагаць моладзі ў яе пачынаньнях, што яшчэ больш заахвочвае маладыя сілы да праяў сваёй уласнай ініцыятывы. Тыя невялічкія гурткі моладзі, на якія да часу сусьветнай вайны глядзелі, як на патворства, ўжо паказалі сваю моц і нават вагу ў палітычным будаўніцтве. Далёка не задавальняючыся абмежаванымі статутамі, моладзь з'ежаецца на кангрэсы, гдзе накідвае больш шырэйшыя і агульнейшыя плячы дзейнасьці, да з'дзейсьненьня якіх імкнецца.

Толькі беларускую моладзь сустрэў сумны лёс. Ачуняўшы ад доўгага сну, яна ня ўсілах яшчэ добра агля-

дзецца навокал і зразумець тыя вялікія заданьні, якія пакладалі і пакладаюць на яе запраўдныя сыны свайго гаротнага народу. Праз сваю цямноту і няпэўнасьць, наша моладзь часта на першым-жа кроку падпадае на здабычу ваўком у авечай шкуры, якіх так шмат разьвялося на нашай Бацькаўшчыне. Ня раз прыходзіцца блутацца ёй па разкінутых сілкох, покуль заблішчэўшая зорка праўды, ня вывядзе на пэўны шлях. А тая сьвядомая моладзь, як адарваныя лісты ад праўды жыцьця, якія змушаны праз сілу маўчаць, скапляюць энэргію, каб пасьля яе выявіць і задзівіць сьвет сваёй магутнасьцю і неспадзеваным выяўленьнем. Уся гэтая моладзь жыве лятуценьнямі ў той мамэнт, калі і ей будзе магчымасьць падыйсьці блізка да народа і зьдзейсьніць лятуценьні доўгіх гадоў. Толькі думкі:—Ці прыдзе гэты момэнт?—Ці можа прыйсьці? якія так часта трапляюцца ў душу кожнага з нас і тлумачацца, ведама, пасвойму, не даюць магчымасьці быць спакойнымі. Аднак мы павінны сьцьвердзіць, што час настаў. Беларуская моладзь не пазбаўлена права якім карыстаецца моладзь усяго сьвету для хучэйшага зьдзейсьненьня сваіх мэтаў — З'езда моладзі ў усяго абшару Беларусі. У сучасны момэнт бязпрыкладных высілкаў змаганьня за правы свайго народу, калі жыцьцёвыя хвалі кідаюць нас у рожныя бакі, з'езд беларускае моладзі, будзе аднэй з галоўных падвалін стварэньня моцнага грунту для працы на карысьць дарагой нам Бацькаўшчыны і яе лепшай будучыні. А мэта наша будзе дасягнута толькі тады, калі сярод нас будуць панаваць супольныя імкненьні і вера ў сваю моц. Мы не павінны застанаўлівацца ні перад якімі перашкодамі, а шырыць гэтую думку і рыхтавацца.

Праўда, пытаньне гэтага кангрэса надта цяжкае і здаецца на першы пагляд не магчымым, але будзем пэўны, што праца намарна ня пойдзе. Трэба толькі падаць свой голас у сьвет, а там адгукнуцца нашы браты якія прайшоўшы школу няволі, незабавяць працягнуць нам свае рукі; яны памогуць ўзьдзейсьненьню нашых, а ў той самы мамэнт агульна-чалавечых, ідэалаў праўды і незалежнасьці.

Чмурыла.

# ВЫБАРЫ.

Хутка ўжо пачнуцца выбары ў Варшаўскі Сойм. Ідзе прадвыбарная агітацыя ўсялякіх партыяў, і беларусам прыходзіцца цяжка змагацца, каб утрымаць сваё становішча і правесьці сваіх кандыдатаў у польскі Сойм.

У сучасны мамэнт, калі амаль што немагчыма працаваць на карысьць свайго народу і Бацькаўшчыне, каб зьдзейсьніць тыя ідэалы, каторыя многа гадоў таму назад абвесьцілі правадыры беларускага адраджэнцкага руху, прыходзіцца зьвяртаць асабістаю ўвагу на шлях парлямэнтарнае барацьбы за свае правы.

Шмат цяжкіх хвілін перажыла і перажывае Беларусь, і тым цяжэй гэтыя хвіліны, што беларускае грамадзянства няможа і нямае права гаварыць. Наступае мамэнт калі сам народ, навучаны горкім вопытам чужацкае апекі, праб'е брэш у сьцяне маны і крыўд акружаючых яго і моцна загавора праз сваіх прадстаўнікоў-паслоў аб сваім жыцьці, аб тым, што яму трэба і чаго ён хоча.

Цяпер, калі беларускі рух захоплівае палітычнае жыцьцё Эўропы і ўсё больш прыймае міжнароднае значэньне, трэба падгатавацца да таго, каб у патрэбны мамэнт уступіць паўнапраўнымі сябрамі ў палітычнае - гаспадарскае жыцьцё другіх народаў.

Варожыя сілы шмат ставяць перашкод на шляху, па катораму ідзе народ, каб дасягнуць і зьдзейсьніць свае мэты.

Але немагчыма згасіць тое пачуцьцё права і свабоды, якое жыве ў кожнага з нас. Гэтая несьмяротнасьць думак, якія перэдаюцца з пакаленьня ў пакаленьне, дае моц і веру ў працу, ў зьдзейсьненьне нашых лятуценьняў.

Мы моладзь, жывем гэтымі думкамі і як больш інтэнсыўна адчуваючы ўсе праявы жыцьця, павінны з увагай аднесьціся да аднаго з палітычных актаў нашае гісторыі.

Наш абавязак падгатаваць сябе так, каб мы ў будучыне маглі сьмела і цьвёрда стаць пад сьцяг працаўнікоў за адраджэньне свайго народу і зьмяніць сучасных дзеячоў у іх змаганьні за правы нашага народу.

Кожны прыклад з сучаснага жыцьця можа добра прыгадзіцца ў будоўлі будучыні.

Шмат хто з вас цесна зьвязан з жыцьцём народа і з'яўляецца сьведкам паступовага разьвіцьця яго нацыянальнага самаасьведамленьня. І вось цяпер, калі патрэбен максімум сіл для правядзеньня сваёй праграмы, мы моладзь павінны весьці самую шырокую працу асьведамленьня сярод тых мас, каторыя пад уплывам тых ці іншых нагавораў вагаюцца і ня ведаюць, што рабіць і куды ісьці.

Ад вынікаў передвыбарнай працы залежыць напрамак які прыйме нашае жыцьё ў не далёкай будучыні, і ці магчыма будзе нам моладзі пашырыць культурна-прасьветную працу ў самых далёкіх кутках Беларусі, а так сама пашырыць веду сярод нашых равесьнікаў, заклікаючы ўсіх да далейшае барацьбы за сваё нацыянальнае і палітычнае „Я“.

Ведаючы ўсё гэта, мы моладзь павінны ўлажыць сваю дзель працы, ў так важную для нас і ўсяго хода беларускага жыцьця справу, выбараў ў Сойм, бо толькі ад актыўнасьці агульнай працы, залежыць тое, каб ня чужынцы кіравалі намі, а людзі, каторыя зьяўляюцца сапраўднымі і вернымі сынамі свайго народу.

А. *Сваяк.*

# Мы і яны.

Прыйшоў новы $19^{22}|_{23}$ вучэбны год. Вялікая радасьць, а разам з тым і гора ахоплівае беларускую моладзь. Запраўды, толькі невялічкая горстка беларускае моладзі мае магчымасьць атрымліваць адукацыю ў сваёй роднай школе, рэшта моладзі, лічбаю моцсоткі тысячаў, дык пазбаўляна яе зусім і толькі лятуціць аб ёй.

Хаця і ёсьць пачуткі, што навучэньне будзе ў нас абавязковым для ўсіх, але гэта яшчэ знак пытаньня, дзеля таго што вучэбны год пачаўся! Хіба толькі ў другім годзе? Ды да таго няведама ў якой мове мае яна адбывацца, кажуць, што ў польскай, але тады зразумела, што такая школа ня зможа прыгарнуць беларускіх дзяцей і зрабіць шчырых грамадзян сваяе бацькаўшчыны. Аднак і тая белеруская моладзь, якая атрымлівае сярэднюю адукацыю ў сваіх сярэдніх школах, зусім не згуртаваная, каб весьці культурна-прасьветную працу, хаця ўжо ня мала пісалі і казалі аб арганізацыі.

Праўда, да апошняга часу амаль што нябыло беларускіх сярэдніх школ, за выключэньнем І Віл. Бел. Гімназіі, вось дзеля гэтых прычын і праца йшла дужа марудна. Толькі з наступіўшым годам як быццам лік сярэдніх беларускіх школ павялічываецца (гімназіі адчынены ў Радашковічах, Навагрудку, Несьвіжы і др.) і можна спадзявацца, што праца пойдзе хутчэйшым тэмпам. Дагэтуль толькі вучнёўскі гурток пры І Віл. Бел. Гімназіі веў даволі інтэнсіўную працу. Дзякуючы стараньням вучняў і п. Красінскаму вызначанаму пэдагагічнай радай, ўдалася адчыніць бібліатэку, якая функцыянуе цяпер штодзенна. Залажыліся

таксама і гурткі : геаграфічны, літэратурны і інш. Ачуняе і нашая часопісь «Мнладое Жыцьцё» заданьнем якой ёсьць абслужваньне гінтарэсам моладзі. Цяжкія матэр'яльныя варункі, праца ўлетку, змушвала часова спыніць працу ў выдаваньні, але цяпер усе гэтыя перашкоды спыняны.

На вялікую радасьць, як і трэба было спадзявацца кліч да моладзі не прайшоў пустым рэхам. Адгукнулася моладзь з розных куткоў Беларусі і пасыпаліся просьбы прысылаць сваю часопісь. Ясна стала відна, што жыцьцё моладзі забілася з нязвычайным напружаньнем, імкненьмі да сьветлай будучыні і верай ў сваю моц.

Аднак кажучы аб нашай моладзі ня прыходзіцца прайсьці міма тэй, якая хоць і жыве побач з намі, але далёка адыйшла ад нашых заданьняў, ды мала таго яшчэ перашкаджае, па меры магчымасьці, нашае працы. Да прыкладу ўзяць хаця Праваслаўную Духоўную Сэмінарыю ў Вільні. Сэмінарская моладзь нягледзючы на тое, што шмат чаго зьвязвае яе з беларускім рухам, вядзе варожыя адносіны да ўсяго беларускага ў той час, як шмат хто мяркуе працаваць на пастарскам шляху сярод беларускага народу. Праўда, сярод узгадаваньнікаў Сэмінарыі ёсьць шмат такіх, якія нічога супольнага з беларускім рухам нямаюць і жывуць як эмігранты, але іх ужо нятак шмат, каб перашкаджаць зьбліжэньню моладзі і яе ідэямі. Ці магчыма думаць,што гэта часовае неразуменьне нашых заданьняў і што тыя „истинно русскіе“ якіх часова так шмат, пакінуць перашкаджаць нам у працы, а наадварот прыйдуць з дапамогай.

Вучань-беларус.

**Беларуская Моладзь! наш абавязак: чытаць, пашыраць і пісаць у сваю часопісь „Маладое Жыцьце“**



*....Падымайся з нізін, сакаліна сямья,*
*Над крыжамі бацькоў, над курганамі,*
*Занімай, Беларусь маладая мая,*
*Свой пачэсны пасад між славянамі!...*

*Я. Купала.*

# Кароткая гісторыя, зьмест і заданьні скаўцтва.

Шмат, хто скончыўшы сярэднюю школу скажа, што яна яму апрача грунтоўнага знаньня лацінскай мовы ды часам выкрыўленай сьпіны, або запалых грудзей дала надта мала і не навучыла самым неабходным у жыцьці рэчам.

Пра абмылкі сярэдняе школы даўно ўжо вядуцца гутаркі нават на тэрыторыі былшае Расеі, але толькі нядаўна зроблены на Заходзе канкрэтныя крокі, каб паправіць гэтыя абмылкі. Поруч сярэдніх школ у галаўнейшых дзяржавах Эўропы і Амэрыкі сталі закладацца школы жыцьця, ў каторыя моладзь ходзіць вучыцца, ў вольны ад школьнага навучэньня час — скаўцкія арганізацыі.

Каб заахвоціць беларускую сярэдняшкольную моладзь да заснаваньня аналёгічных таварыстваў, падаем ў гэтай стацьці кароткія ведамасьці пра гісторыю і заданьні скаўцкіх арганізацый, ды спосабы, якімі праводзяцца тыя заданьні ў жыцьцё.

Слова бой скаўт (boyscout) —ангельскае. У перакладзе на беларускую мову яно значыць — хлапец, які шукае дарогі. Першую скаўцкую арганізацыю заснаваў ангельскі генерал Бадэн-Паўэль у 1908 г. ў Лёндыне. Мэтаю яе было стварыць такое таварыства моладзі, якое прывучыла-бы моладзь да жыцьця і працы, загартавала фізычна, выхавала маральна, навучыла прытрымоўвацца ў жыцьці правілаў гігіэны, разьвіла характар дзяцюкоў, вырабіла ў іх моцную волю, заўзятасьць, цярплівасьць, уменьне арыентавацца пры ўсялякіх варунках ды захавала маладыя душы ад шкадлівых уплываў.

Усё гэта зьдзейсьнялася пры дапамозе розных гульняў, спартовых практыкаваньняў жыцьця грамадою, лекцый, падарожжаў, вучэньня розным рамёслам, арганізацыі клюбаў моладзі і г. д.

Павольна, ступень за ступеняй, вучыў ён сваіх выхаванцаў — скаўтаў розным карысным уменьням, дасьледжаваньню прыроды ды навучаньню яе законаў.

Маральнае выхаваньне праводзілася за дапамогаю кодэксу скаўцкай маралі — 10 скаўцкіх законаў, выкананьне якіх ёсьць бязумоўным і якія падаем ніжэй:

1. Скаўт над усё шануе свой гонар. Ен заўсёды гаворыць праўду і стрымлівае сваё слова.

2. Скаўт — верны і адданы сваёй радні, свайму народу бацькаўшчыне і ўладзе і сумленна выконавае свае абавязкі, да іх.

3. Скаўт заўсёды гатовы з ахвотаю памагчы бліжнім.

Што дня ён робіць ня менш аднае добрае справы.

4. Скаўт — прыяцель усіх людзей добрай волі і брат кожнага скаута.

5. Скаўт чулы, паслужны і абыходзіцца па рыцарскі.

6. Скаўт любіць прыроду і абараняе яе і цэнныя людзкія творы. Ён — прыяцель жывёлы.

7. Скаўт — паслухмяны. Ён слухаецца бацькоў, скауцкіх старшынь і тых, каму падлягае.

8. Скаўт заўсёды вясёлы, ласкавы. Усякую працу робіць з радасьцяй, а загады выконвае бяз ніякіх нараканьняў.

9. Скаўт ашчадны. У скарбонцы ён мае зьберажоную ўкладку на чорны дзень.

10. Скаўт чысты ў думках, словах і ўчынках.

Хто не прытрымоўваўся гэтых дзесяці законаў, той тым самым пераставаў быць скаўтам.

Свае думкі і сыстэму скаўцкага ўзгадаваньня, генерал Бадэн Пауэль выклаў у сваёй кнізе „Scouting for boys" якая выйшла ў Лёндыне ў 1908 г. і вытрымала 9 выданьняў (апошняе — 1920 г.) Скаўцкая арганізацыя шпарка пашырылася ў Англіі, дзе колькасьць скаўтаў дайшла да некалькіх сот тысячаў. Сам ангельскі кароль узяў гэтае таварыства пад сваю апеку, а яго сын, прынц Уэльскі, залічыўся сябрам у скаўцкую арганізацыю.

З Англіі скаўцтва перайшло ў ангельскія калёніі і ў, Амэрыку, дзе ўжо перад тым істнавалі падобныя таварыствы моладзі — „індыйскія гурткі", заснаваныя лаўцом і пісьменьнікам Эрнстам Сэтонам-Томпсонам. Тут скаўты мелі вялізарны пасьпех; цяпер адныя Злучаныя Штаты налічаюць 589,119 скаутаў.

За прыкладам Амэрыкі пайшла Нямеччына, Францыя Гішпанія, Італія, Швэцыя і г. д. і хутка скаўцкія арганізацыі пашырыліся па ўсяму культурнаму сьвету. Скаўты пашырыліся таксама і сярод славянскіх народаў — Чэхаў Украінцаў, Палякаў, Сэрбаў і Маскоўцаў. Трэба спадзявацца што неўзабаве за прыкладам іншых славян пойдуць і Беларусы.

Хто ня знае настолькі эўропэйскіх моваў, каб мог карыстацца ангельскімі ці францускімі падручнікамі, або ня зможа іх здабыць, дзякуючы надта высокай валюце, таго пасылаем да чэскіх падручнікаў (нпр: A. B. Swojsik a J. Noi. ak. Zakladowe skautingu Dil. I-II. Praha. 1920 г. 608 ст.), і украінскіх (нпр.: Д-р О. Тисовський. Життя в плата Львів. 1921 г. 168 стр., I ч. або польскіх (нпр.: Książeczk harcerza. Henryk Glass. Warszawa 1921 г 246 стр, E. Piaseck i M. Schreiber. Harce młodzieży polskiej. Lwów. MCMXX 468 ст.)

Польскія скаўты называюць сябе Harcerzami. Польскае скаўцтва добра заарганізавана, але мае трохі мілітарыстычны

дух, чаго няма ў ангельцаў, або чэхаў.

Вось напрыклад, якімі словамі пачынае чэская „Skautska priručka“ ( Praha, 1920 г. 70 ст. Graz skautů R. Č. S.),

«Пакінь душнае паветра места і паслухай, як прырода пяе свае гімны сілы і любові. Ці знаеш ты красу зацішных лясоў і гор? Калі пойдзеш з намі, дык даведаешся, што ручайкі, зьвяры і кветкі ёсьць нашыя прыяцелі. Падстаў свае маладые грудзі запашному ветрыку, а сваё цела ласкавым сонечным праменьням. Вольнае жыцьцё сярод вольнае прыроды ўдыхне ў цябе мужную сілу. Падарожжы будуюць удачу, прыгоды развіваюць спасьцярэжлівасьць і спрытнасьць. Чароўнае жыцьцё ў таго, хто навучыцца са скаутамі спаўняць свае штодзенныя абавязкі. Згадзіся жыць з намі па нашым законам, жыцьцём прымітыўным і прыяцельскім, скіраваным на служэньне духам і целам высокаму ідэалу! Гэта далёка цяжэй чым вучыцца ў школе. Але не палохайся таго, што нашы законы накладаюць вялікія абавязкі. Ня кідай свайго намеру! Мы, скаўты, сябры сусьветнае арганізацыі ня клічам да спорту для забавы, або школы маладых жаўнераў, якія сьлепа прымушаны слухацца: Клічам цябе! прыйдзі запішыся да нас для будаваньня ідэалу вольных прыяцеляў!»

Няма ніякага сумленьня, што скаўты прынясуць вялікую карысьць для Беларусі, выхаваўшы здаровую моладзь. Толькі здаровая, фізычная нацыя можа абараніцца ад дужэйшага ворага і забясьпечыць сабе права на самастойнае істнаваньне.

**У. Ш.**

## Ад рэдакцыі,

Дадаем да гэтага кароткую ведамасьць аб скаўцтве, прынамсі, ў Заходняй Беларусі.

Пачатак арганізацыі беларускіх скаўтаў быў зроблены, як нам вядома, ў 1920-1921 г. пры „гуртку беларускае моладзі“ ў м. Горадні была закладзена старшынёю гуртка студ. Ул. Курбскі і ахфіцэрам Белар. Вайск. Камісіі Я. Шурпаю. Горадзенскі беларускі Гурток, які задаўся вялікаю мэтаю аб'яднаць усе беларускія гурткі моладзі па Горадзеншчыне і рэальна выконаваў яе, прынёс бы шмат карысьці арганізацыі беларускіх скаўтаў, але дзякуючы вайне 1920 г. і няпрыхільным адносінам улады, зачыніўшага гурток у пачатку 1921 г., справу прымушаны быў спыніць да лепшых часаў.

Цяпер, як чуваць, вядомы беларускі мастак Язэп Драздовіч клапаціцца аб заснаваньні ў сваей мясцовасьці (ня ведаем назовы) скаўцкай арганізацыі.

Ен-жа прапануе замест ангельскага назову бойскаў

прыдуманы ім, — спрыт-гурміст (спрыт адспрытны і гурмістр ад-гурм, грамаде).



Восень

*
* *

Ціха плыў месяц між хмараў празрыстых...
Зоры ранілі халодныя сьлёзы,
Вецер ірваўся між клёнаў бязлістых,
Вецьцё калыхаў маўкалівых бяроза̂ў...
Таялі плямы туманныя ценяў
І срэбры сьнягоў безканечных, зімовых...
Сьветла было ад малочных праменьняў,
Сьветла было мне ад думак тых новых.
Нейкая дзіўная сіла ўставала
У сэрцы калісьці пакорным і хворым...
Месяц, здаецца рукой-бы дастала,
Зоры сарвала-бы ў неба прасторы
Долі пайшла-бы шукаці далёка
Я для зямліцы, што сьпіць без прасьвету.
І разьліла-бы, як мора шырока
Шчасьце па цэламу беламу сьвету.

# Пагляд на творчасьць Вінцук—Дунін Марцінкевіча.

Перш, чым казаць аб творчасьці В. - Д. Марцінкевіча, мы павінны разгледзіць палажэньне тагачаснае Беларусі і яе літэратуру.

З канцом XVIII веку скончылася, трэба сказаць, цэлая эпоха літэратурнага і гістарычнага жыцьця нашае Бацькаўшчыны. У працягу папярэдняго часу, Беларусь дасягла найвышэйшых пунктаў свайго разьвіцьця. — Залатая пара. Праўда, тагачасная літэратурная мова значна розьнілася ад цяперашняй мовы дзеля таго, што Беларусы, як і ўсе славянскіе народы ўжывалі царкоўна-славянскія словы і граматыку. Гэтыя царкоўна-славянскія словы толькі з утратай незалежнасьці былі зьнішчаны.

Добра вядома ўсім і тое, што Беларусь у працягу сваёй паднявольнасьці няраз падпадала пад ярма: Польшчы, або Расеі, якія сваімі гібельнымі рэлігійнымі, ў зьвязку з матэр'яльнымі варункамі істнаваньня беларуса, рабілі сваю шкодную палітычную працу і зьнішчылі зусім беларускую інтэлігэнцыю.

Адзін толькі цёмны народ застаўся верным сваёй мове і гэтакім парадкам сам пачаў адбудоўваць сваё незалежнае жыцьцё.

З пачатку адбудова гэтая праходзіла несьвядома, або маласьвядома, і толькі за апошнія часы (другая палова XIX і XX век) народ беларускі прыйшоў да пэўнай мэты — Незалежнасьці сваяе бацькаўшчыны. Аднак шмат высілкаў трэба было пакласьці, каб прыйсьці да гэтага сьвядомага адраджэньніцкага часу.

Беларусь тады, як і цяпер некаторые любяць лічыць, лічылі „Сѣверо-Западный Край„. або „Kresy Wschodnie". Гэткім парадкам хоць і выходзяць ў запраўды, любячыя свой народ беларускія вучоныя, жадаючыя памагчы яму, але немаглі падыйсьці з чужацкай мовай, што вельмі шкодзіла карыснай справе. Праўда былі спробы пісаць нешта ў беларускай „гутарцы", якта вершы, апавяданьні, але гэта рабілася больш дзеля забавы, чымся сурёзна. А мо гэтыя мізерныя спробы і больш пужалі нас, думаючы, што гэта запраўды гутарка, а не звычайная славянская мова?

Вось, першы з беларусоў выправіўшы гэтую „гутарку„ і даказаўшы перакладам „Пана Тадэуша", што ёсьць пекная мова, быў Вінцук - Дунін Марцінкевіч, або Навум Прыгаворка (псэўдонім).

Марцінкевіч (1807-1884 г.), гэта адзін з выдатных нашых песьняроў сяр.XIX века; творы, нястрацілі сваёй літэратурнай вартасьці аж да апошніх дзён і навэт шмат каму доўга слyжылі прыкладам.

Цяпер пяройдзем да разгляду яго творчасьці. Не затрымоўваючыся шмат на характэрыстыцы кожнае асобы галоўных твораў, трэба зазначыць, што большасьць творчасьці Марцінкевіча, праніктута сэнтымэнталізмам, які пануючы ў заходняй Еўропе, пасьпеў трапіць і на Беларусь. Кожны тып апісаны Марцінкевічам або толькі з добрага боку (Кацярынка, Гапон, Юльля...), або толькі з дрэнага боку (Аканам Сабковіч і іпш.). Аднак, заслуга Марцінкевіча ня ў гэтым паказе добрых ці дрэнных рысаў, а ў тым, што ён першы пачаў выяўляць у прыгожай літэратурнай мове этнаграфічныя і гістарычныя рысы Беларусі.

Ведама, беларускі народ багаты вуснай народнай літаратурай, міфолёгіей і інш., а ў часе Марцінкевіча знаходзім гэта ў нязвычайнай жывасьці і яснасьці. Амаль што не ўва ўсіх творах Марцінкіевіча знаходзяцца гэтыя рысы. Тут знаходзім мастацкае апісаньне сьвят (Купала, Дзяды, Дажынкі і інш). Дужа добра намалёваны скокі з прыпеўкамі, гдзе паміж іншым праглядае памятка аб ярме татараў.

„Наехала полан двор татараў,
Ды ўзялі ж майго мужа ў палон“.

Есьць, аднак, некаторыя факты зусім розьнячыеся ад праўды напрк.: у адным мейсцы гаворыцца, быццам ліцьвіны накінулі хрысьціянства беларусам ў той час, калі гісторыя кажа зусім наадварот.

Не выяўляючы яшчэ некаторых гістарычных рысаў у творчасьці Марцінкевіча, мы павінны зазначыць, што ён шмат фантазіруе і з гэтай прычыны колёрыт робіцца ня зусім праўдзівым

Можна былоб і яшчэ знайсьці некатарыя недахваты ў творчасьці Марцінкевіча, але з тэй прычыны, што на долю яго выпала зрабіцца першым тварцом беларускае паэзіі, ня толькі не закідываюць, але адносяцца з вялікім да Марцінкевіча паваженьнем.

Ці быў Марцінкевіч беларус-адраджэнец сказаць цяжка. Выніку гэтаму шкодзіць знойдзены верш „Вясна, голад перапала“ рэвалюцыйны па зьместу і хучэй падыходзячы да творчасьці Паўлюка Бахрыма.

Агулам трэба сказаць, што толькі Марцінкевіч першы кінуў прамень сьвятла ў наш народ і яго мізэрную тады літэратуру. Скончыўся час занядбаньня беларускае літэратуры з XVII век. па XIX век. Узварушыўся цёмны народ, а разам пачала зварочвацца яго „забраная інтэлігэнцыя“ Марцінкевіч заставіў па сабе памятку ня толькі, як пан бацька прыгоннага сялянства, але як бацька беларускае літэратуры новага расьцвету. Беларускі народ нікалі не забудзе Марцінкевіча як літэратурнага адраджэнца. Памяць аб ім жыве і будзе жыць сярод шчырых беларускіх душ.



* * *

Ня страшыся, зімовага шума,
Што сьнегу навалена шмат,
Што ніву ляды закавалі
Дрыжыць твой абголены сад.
Ня бойся, што вецер сярдзіты,
Так жудасна ў полі гудзе...
Няпраўда, мой браце забіты,
Час новы, час лепшы прыйдзе
Прыйдзе ў праменьнях ён сонца,
Прыйдзе ў сапеньні вясны —
Калі так цяпло у старонцы,
Калі так збываюцца сны.

**Ігнат Дварчанін.**

# Думкі мае.

**Жыцьцё наша — дні вольных дум. Дні, калі ясны розум ня сьпіць, і ў каторыя душа калоціцца ад наплыву рожных уражэньняў і відаў жыцьця.**

**Маладыя годы — гэта лепшыя годы! У працягу іх сэрца і дух расьце ў сілу, і толькі ў гэткую часіну мы пазнаём сьвет шырокі і пекны. Маладыя годы! Яны стаяць яснай зданьню ў вачах людзей. Гэтая здань здольна плакаць дзіўнай музыкай, а гукі гэтага плачу заліваюць сьлёзы маладыя:**

**Моладасьць — вясна!.. Вясна сваімі чарамі праганяе смуты жыцьцёвыя. Вясна, як багатая каралеўна дарye падарункі тым, хто чакае яе міласьці. Ці мае моладасьць падарункі? О, бязумоўна, што мае. У ёй кіпяць жаданьні і сілы ў ёй йграюць гучна струны, ў ёй жывуць надзеі.**

**Моладасьць лёгка — крылы Ангел! пасланы з нябес, родзіць волю, думкі, веру і сьвятое каханьне.**

**Моладасьць — князеўна пудоўнае казкі! Яна краскамі ўбрана. Ей прыгожасьці аддавы. Ёй ўсьміхаецца лес і поле, да Яе імкнуцца прыветныя ласкі і няпрыпыннай хваляй шчасьце бье в няведамай далі... Толькі ў моладасьці душа палае дзіўным жарам, толькі ў Ей вялікая моц!**

**В. Н.**

# Хто гэта?

Вёска Цынцычы, тулілася сярод балотаў і лясоў, у такой глушыні, якія часта сустракаліся ў нас толькі гадоў сто таму назад.

Ціха цягнулася жыцьцё жыхароў вёскі. Нішто не парушала штадзённых клопатаў аб заўтрашнім дні.

А моладзь, як заўсёды нядбалая моладзь, гуляла, жартавала, весялілася. Гам, сьмешкі, крыкі, скокі — круглы год раздаваліся там, гдэ зьбіралася Цынцычная моладзь.

Весела, ў той час, было і Нічыпару: жухам хадзіў сярод жыхарства і ня зыходзіў сьмех з яго вуснаў. Ня засмучвала яго і беднасьць у хаці, ня адбіваліся на ім і жальбы ягонае маткі, на цяжкі лёс.

Нічыпар жыў адзін з маткай, меў гадоў двадцаць — самая пара жыцьця і, перабіваючыся неяк з дня на дзень, карміў сябе з маткай і здаецца шчасьлівы быў чалавек. Але-ж на ўсё знаходзіцца прыпынак.

Сум закраўся ў душу Нічыпара.

Туга набегла і затапіла ягонае сэрца. З вясёлага жуха хлапца, зрабіўся хмурны, пастарэўшы чалавек.

Хвароба змарыла яго, зьбяліла, зсушыла і не давала ні ўдзень ні ўноч супакою. І вя ведаў ён як падыйшла, як агарнула яго гэта хвароба, дый ніхто і ніколі не даведаецца з якога боку падбярэцца каханьне і схаваецца ў сярэдзіне.

Дарасла ужо ўзгадаваная фізычна Ганулька. Яе постаць, вочкі, твар і ўся галава адзначвалася хараством, заўсёды зварочваючы увагу сваёй вясёласьцю. А душой — сьветлай і характарам добрым, і на ўсе адклікаючыся, прымушвала акружаючых людзей, быць лепшымі чым ёсьць запраўды.

Змалку гуляючы заўсёды з суседзкім хлапцом Пятрусём, яна да таго зсябравалася з ім, што гэтае сяброўства перайшло у ўзаемнае каханьне, якраз павінна была хутка зьмяніцца ў сямейнае шчасьце.

Вось у гэтым і заключалася ўсё сумаваньне Нічыпара. Моцна закахаўся ён у Ганульку. Як яснае сонейка сустракаў ён яе, праводзіў яе пэўным паглядам, а спаткаўшы Пятруся сьціскаў рукамі, напруджываў мускулы, жадаючы задушыць яго. Іколькі разоў рука яго цягнулася за каменьнем, за калом, пры сустраканьні ў цемнаце з Пятрусём.

Але устрымоўваўся ўспамінаючы сгарую, сваю добрую матульку, глядзеўшую на яго з трывогай у апошнія хвіліны.

Гэта была за некалькі дзён да вясельля Ганулькі з

Пятрусём. Нічыпар прыйшоўшы пасьля арацьця зморany да хаты і адмовіўшыся ад вячэры, як яго матка не прасіла з ласкай у голасе, пайшоў у клуню і кінуўся на салому.

У гэтую ноч, асабліва, цяжка яму было. Каменьнем нешта ляжала на сэрцы, быццам нейкі цяжар наваліўся на ягоную душу і цісьне, прыгнятае.

А ночка ясная, сьветлая, падвайвала яго душу, навадзіла яшчэ чорны сум і ў душы дрыжэла, варушылася

Навокал ціха. Ніводзін гук не парушыць цішыню, быццам разносячую нейкую таемнасьць.

Думкі кружыліся, караводзілі іграючы на струнах сэрца і гэтыя струны зьвінелі ціха, а калі злая душа ўварвецца з крыкам у душу, струны загучаць усе разам і ў іх пачуецца стогн, бязсільная злосьць, і страцаньне. Вось што вычвараласе ў душы Нічыпара.

А навокала ціха... Жудасна ціха.

Лёгкія, ледзь чутныя, крокі парушылі зьвенячую цішыню. Адчыніліся дзьверы пуні і нейкая постаць увайшла сюды.

Нічыпар зварухнуўся:

— Хто тут?

Я, — адказала постаць.

Нічыпар аслупеў, ён пазнаў голас Ганулькі. А яна кінулася яму на грудзі, прытулілася, абняла і пачала цалаваць з ўсёй гарачынёй сваёй страстнай натуры. Да Нічыпара прыйшла сьвядомасьць, ён апамятаваўся, зразумеў і пазнаў Ганульку. А потым ізноў забыўся ў пацалунках ачумеўшы ад наваліўшагася шчасьця...

Прапялі пеўні і яна выйшла.

На раніцы Нічыпар прыйшоў у хату, але тут яго спаткаў крык маткі. Яна са страхам глядзела на яго твар.

— Што з табой? — пыталася матка, — паглядзі ў люстэрка.

Ен падыйшоў і не спазнаў свой твар. Ен быў чырвоны і ў нейкіх плямах. „Гдзе я пабіўся?“ разважаў ён і не зважаючы заспакоіў матку.

Увесь той дзень стараўся спаткацца з Ганулькай, але не спаткаўся.

У гэтую ноч яна ізноў прыйшла, ледзь чутна. Цалавала яго. Твар неяк ныў, а пасьля кожнага пацалунку Ганулькі Нічыпар, быццам губляў сілу. Сваімі пацалункамі Ганулька высасвала нешта з яго. Страх забраўся ў яго душу, але не выдаваў яго і дачакаў, пакуль не прапялі пеўні і Ганулька не пайшла.

Калі сьціхлі крокі яе, ён усхапіўся і пабег да хаты. Запаліўшы лучыну, тыцнуўся да люстра і...

Твар быў зсінелы. У тых мясцох гдзе цалавала „яна“ былі ледзь прыкметныя кроплі крыві.

— Бабулька, ўпусьці! — прасіўся нехта стукаючы ў дзьверы халупы, стаячай каля лесу. Сонейка, чуць, уздымалася над зямлёй.

З хаты пачуўся стары кашаль і голас скрыпучы:

— Каго чорт нясе?

— Гэта-ж я, бабулька. — Нічыпар.

Дзьверы адчыніліся і Нічыпар увайшоў у хату. У хаці было цёмна, а ў печцы іскрылася вугальлё і паветра хаты прапітана была нейкім затхлым пахам.

— Чаго не ў пару прыйшоў? — схрыпела, старая — гадоў з дзевяцьдзесят, кабета з усімі адзнакамі істоты не падобнай на жывучых на зямлі.

— Паглядзі, бабулька, твар.

Распаліўшы лучыну, яна паднесла яе да твару Нічыпара, аглядзела і запыталася:

— Хто цябе сасаў?

Нічыпар перапужаны выглядам старой расказаў, аб начным здарэньні.

Старая прабурчэла пад нос, дала яму зельля нейкага і ціхім голасам груба скрыпучым, пачала нешта шаптаць на вуха яму, хоць нікога ня было, хтобы мог бы іх падслухаць.

. . . І бяжы, як мага хутчэй да хаты. Дабяжыш — таваё шчасьце, ня дабяжыш—сканаеш! Скончыла голасна старая.

Нічыпар выйшаў і пайшоў у вёску да хаты задамі.

Прыйшла ноч. Было ізноў ціха і Нічыпар, лежучы ў пуні, дрыжэў і прыслухоўваўся. Доўга ён чакаў. Пры кожным гуку ўсхопліваўся і падбягаў да дзьвярэй. Ен чакаў яе. Урэшцы пачуліся яе лёгкія крокі. Нічыпар усхапіўшыся схаваўся каля дзьвярэй, увесь дрыжучы з перарываючымся дыхам.

Дзьверы адчыніліся, увайшла „Ганулька"... Нічыпар замахнуўся і з усей мо''ы ударыў па твару яе так, што яна крыкнула і паваліласа, а сам не ўладаючы сабой хутка выбег за дзьверы зачыніў іх і, як мага пабег да хаты.

Ззаду пачуўся візг' праклянцьця, крыкі, шум... Дзьверы пуні зламаліся і нешта пачало даганяць яго.

Да хаты было крокаў трыдцаць, але яму здавалася, што цэлая міля. Ен ня бег, а ляцеў. Сэрца білася часта, не хапала дыхаць, паветру а за ім з шумам, якійсьці хрыплы голас праклінаў і чуўся ужо бліжэй і бліжэй ..

Убег ў сені, адчыніў дзьверы і хутка зачыніў іх... У дзьверы нешта стукнула, грымнула і вілы прабілі дзьверы на вылят. Раздаўся нейкі плач, зноў крыкі, шу м, праклянцьці і ўсё сьціхла. . . . . . . . . .

— Ганулька ціха і мірна пражыла свой век з Пятрусём. Гаварыўшы раз з ёю, Нічыпар пераканаўся што гэта была ня яна.

**Язэп Р.**

# ДУБ.*

Распусьціўшы суччa
Стары дуб стаіць,
Нічога ня хоча
Як-бы крэпка сьпіць.
Аб нічым ня дбае
Вечна ён маўчыць;
Толькі бура злая
У ім зашуміць.
У часе навальніцы
Шумнай ветраной,
І тады ён толькі
Зашуміць ліствой.
Стаіць непадобны
Да дрэваў другіх,
Бо выгляд асобны
У суччах таўстых.
Ня гнецца ён ветру,
Шумнай буры злой,
Заўсёды ён мае
Сабе супакой.
Зялёныя лісьця
На ім ня дрыжаць,
Вярховыя суччa
На неба глядзяць.
Каранькe глыбока
У зямлю пусьціў
Сукі ён шырока
Свае распусьціў.

(* Верш 10 гадовага вучня Лепкаускае Беларускае пачат. школы.

**Юлік Сяргіевіч.**

З. Тургенева.

# Пацалунак.

Я йшоў ўлетку ля поўдня па вілавіціннай сьцежачцы ўлесі.

Лес быў чысты і малады, лес расейскі з мяшанымі пародамі дрэваў. Беластвольная раскіданая бяроза перамешвалася з дробнай, як шкурка, зьмяі шэра-зелёнай асінай. Ледзь дзе на палянах і апушках расьлі маладыя дубкі, выдаючыяся нуднымі плямамі ўлетку, з пахілянымі нізка галінамі елкі.

Дзень быў гарачы, але сонца ня было відно скрозь гушчар галін, і толькі ўнізе, на пуховай траўцы гулялі і пераліваліся сьветлыя і цёмныя кругі.

Я сачыў за іх гульнёй, як неўспадзеўкі адкульсьці прысуналася чалавечая цень і лягла заняўшы прастор ля мяне.

Я здрыгнуўся і аглядзеўшыся навокал заўважыў, што я ўлесі не адзін.

У двох кроках ад мяне стройна і лёгка, не чапаючы травы, пасоўвалася жаноцкая фігура.

Я застанавіўся. Жанчына зьблізілася і так-сама стала супроць мяне. Шпаркасьцью аднаго пагляду я пасьпеў злавіць рысы божскага аблічча, абрысоўку дзіўнага цела, скразіўшага ў легкіх тканінах зыбістае вопраткі.

Яна была сабою надта хараша і маладая але я ня ведаў, хто яна?

Раптам яна зрабіла рух і трошкі нахіліўшыся да мяне пацалавала ў лоб.

Я затросься. Нявымоўнае ўзрушаньне паднялося, перарываючы дыханьне, трасучы мяне ўсяго разам. Я жадаў павялічыць момэнт асалоды разьліўшаеся ў маёй істоце. Я падняў галаву... Але ўжо нікога нябыло каля мяне.

Яна йшла ўсё так-сама стройна і лёгка не чапаючы зямлі. Ззаду ў яе здавалася два скрыдлы — невялічкія і празрыстыя. Гэта-ж яны пасаблялі ёй нясьцсія так лёгка.

Я ірвануўся наперад, сьледам за ёй моцным, гукам клічучы. Я жадаў, каб яна пацалавала мяне ў вустны „пацалункам сваіх вустнаў".

Але дарма яе клікаў і бег сьледам за ёю. Яна адыходзіла што раз далей і далей.

І ў той час, калі я прасьледаваў, я ўбачыў у лесі ў недалекай адлегласьці ад сябе другога чалавека. Гэта быў маляды хлапец, амаль-што дзіця. Ён ішоў бязупынна падняўшы злёгка дагарэ сукрыстую пекную галаву. Нядбала і вясёла глядзелі надхнёныя вочы наперед сябе і усьміхаліся румяныя поўныя, з'лёгку спушчаныя губы.

Я бачыў, як жанчына застанавілася каля яго, як шпаркім рухам ускалыхнуліся і адкінуліся ўзад яго кудры, і яна пацалавала яго проста ў алыя пачырванеўшыя губы.

І я зразумеў адразу, хто была гэтая жанчыа. Я зразумеў тож і тое, хто быў гэты юнакк.

Так, гэта была яна-муза, натхненьне паэты.

Яе пацалунак я чуў на сваім чале, пацалунак халодныя поўны.

Гэткім пацалункам, няпоўным надарункам надхненьня, дарыць яна нас, песьняроў-празаікаў, і захоўвае свае пацалункі і ласкі яму, нядбаламу, надхнёнаму сьпевацэ - вершаскладаньніку.

# Доля суму...

Доля суму—адзіноты,
Цяжка горанька з табой,—
За гадамі бягуць годы
Сваёй сумнай чарадой
Вечар толькі як настане,
Кінуць людзі працаваць,
А мне мая адзінота
Пачне горка дакучаць.
Чорны думы душу глумяць,
Сэрца смокчуць дзень і ноч,
Хоць ты выйдзі ў чыста поле,
Хоць у рэку быстру скоч...
Путы цяжкі налажылі
Маладой маёй душы
І безжальна згаварылі:
„Цярпі толькі дыў маўчы!“
Цярпець стала не падсілу,
Стаў душой я сумоваць:
„Божа добры, справядлівы!
„Памож путы гэты зьняць...“

**Х. Разомка.**

# ХРОНІКА.

## Запросіны на кангрэс.

Беларуская моладзь у Вільні атрымала запросіны на Кангрэс Работніцкае моладзі, які адбыўся ў Варшаве 1 кастрычніка г. г.

## Беларускі тэатр.

Як мы даведаліся стварыўся новы вандроўны тэатр пад кіраўніцтвам п. Аляхновіча. Тэатр ужо распачаў працу на правінцыі.

## Выбары ў Сойм.

5 лістапада адбудуцца выбары ў Варшаўскі Сойм, а 12 ліст у Сэнат. Як ведама ўсім стварыўся блёк нацыянальных мень.

шасьцяў у склад якога ўваходзяць і беларусы. Напэўна-што беларускаму грамадзянству ўдасцца ўсёжтакі правесьці сваіх прадстаўнікоў пад №16, якія будуць шчыра бараніць сваю родную справу.

## Драматычная майстроўня.

Ящчэ за доўга да заснаваньня беларускае драматычнае майстроўні (студыі), былі думкі аб арцанізацыі гэткай, але толькі ў бягучым годзе былі зроблены паступовыя крокі і справа наладзілася.

Скарыстаная саля I Віл. Белар. Гімназіі (цяпер адрэмантаваная) зусім добра абслужвае мэтам майстроўні.

У склад працаўніксў майстроўні ўваходзяць лепшыя сілы, апрача каторых знаходзяцца да 25 асоб вучняў. Ужо распачаліся заняткі. Чытаюцца лекцыі гісторыі тэатру, мімікі, грыму і інш. На паседжаньні 5 верасьня вызначаны рэпэртуар, які складаецца з гэткіх рэчаў: „Пан Міністэр“ Ф. Аляхновіча, „На папасе“ „На куцьцю“ „Адвечная песьня“ I і XII абразкі — Янкі Купалы. „Жаніцьба“ — Гогаля (пераклад Н. Арсеньневай). Магчыма думаць, што ў хуткім часе беларускае грамадзянства ўбачыць на сваёй сцэні нешта запраўды мастацкае вартае ўвагі. Асобы чуючыя здольнасьць да працы, могуць быць залічаны ў лік сяброў майстроўні пасьля экзамену.

## У Беларускай Гімназіі.

Пачаўшыйся вучэбны год (з 2 верасьня г. г.) прынёс шмат рэформ у складзе Пэдагагічнай Рады гімназіі Дырэктар п. Тарашкевіч, а сэкрэтар гімназіі п. Красінскі.

Вучыцельскія пасады займаюць вядомыя навуковыя сілы п. Трэпка (аўтар Фізыкі ў беларускай мове) Зямкевіч ігумен Піліп, дк. Бобіч і др.

Закладзены таксама вучнёўскія гурткі па геаграфіі, лацінскай мове і прыродазнаўству. У хуткім часе заложацца гурткі па літэратуры і гісторыі. Вучнёўская бібліятэка функцыянуе штодзенна.

## Адчыненьне памятніка Ст. Манюшкі.

19 верасьня г. г. ў 50 ўгодкі сьмерці вядомага кампазытара Станіслава Манюшкі урачыста быў адчынены помнік. Пасьля набажэнства ў касьцелі сьв. Яна, некаторыя віленскія грамадзянскія ўстановы і школы сабраліся каля скверу (побач з Касьцёлам сьв. Кацярыны), гдзе пасьля прамоў аратараў узложаны вянкі. Паміж мноства красак, красаваўся вянок і ад беларускага грамадзянства з надпісам на істужцы „Бацьцы беларускае опэры.“

## Вечарына Камітэту помачы ахвярам вайны.

У нядзелю 15 га кастрычніка ў салі Драматычнае майс

троўні (Вострабрамская № 9) адбудзецца лекцыя п. Гарэцкага, а пасьля прадстаўлены жарт у 1 дзеі „Цётка нашкодзіла". Па сканчэньню праграмы скокі пад гукі аркестру.

Пачатак а 6 г. ўвечары.

### Новыя кніжкі.

Выйшлі з друку і прадаюцца новыя кнігі: Геаграфія Беларусі — Аркадзь Смоліч, і Фізыка — Антон Трэпка.

# ЖАРТЫ.

— У кнігарню прыходзіць кабета і пытаецца „Гісторыю сусьветнай вайны". Ей паказваюць. Крытычна агледзіўшы паперу, вельмі благога, паваеннага гатунку, яна кажа: — «Чы няма часам перадваеннага выданьня?»

* * *

Фабрыкант кажа да аднаго шукаючага працы:—„Тутака часта бываюць справы, якія трэба трымаць ў найвялікшым сакрэце. вы змаглі-б адпавядаць гэтакім вымогам?"

— „Я думаю, што змагу! Я чатыры гады працаваў на каўбаснай фабрыцы".

### Карысьць навукі.

— Так, я да глыбіні ўдзячны сваім бацьком за тое што яны змаленства навучылі музыцэ.

— Чаму?

— Ды як-жа! Каб я сёньня не залажыў іскрыпкі, дык ня меў бы магчымасьці прыняць удзел у выпіўцы.

---

— Валасны старшыня піша ў павет:—«На вашае запытаньне, хто ёсьць найстарэйшы з сялян, маю гонар паведаміць, што самы стары ў воласьці ўжо два гады як памёр».—

**Задача**




Гэта ёсьць схэма трохкутніка на чугунцы ў Ново-Свеньцянах. На адрэзку cb стаіць вагон № 1 на адрэзку bd стаіць вагон № 2. Вагоны можна штурхаць у тупік ab, у якім можа зьмясьціцца толькі адзін вагон (№ 1 або № 2). Па галоўнай дарозе mn манэўруе цягнік, які можа заезжаць на лініі db і bc, але на лініі ab зьмясціцца ня можа. У заданi трэба пераставіць вагоны № 1 на мейсца вагону № 2 і ваг. № 2 на мейсца ваг. № 1.

Адказ у чародным № часопісі.

падаў Гічан.

**Папраўка.**

У № 2 (5) „М. Ж." праз недагляд укралася памылка ў адказах на задачу № 2. Замест Менск трэба Горадня.

Рэдакцыя.

## Свая пошта.

**Хомічу.** Грошы атрымалі. Шчыра дзякуем, „М. Ж." пасылаем

Рэдактар-выдавец **Аляксандар Пусько.**

**Цана асобнага нумару 200 марок.**

Адрэс Рэдакцыі: **WILNO. ul. Ostrobramska Nr. 9.**

Друкарня „ДРУК" Субач 2.